Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 10 (64) Нядзеля, 1-га Сакавіка 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр. За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар. — 5 гр.

*Памятайце аб дарагоўлі друку, а дзеля гэтага не шкадуйце грошай на падпіску, каб ня была спынена вам высылка „Грамадзкага Голасу“!*

## Цікавыя азнакі.

Бальшавікі ня могуць ужо ўтаіць таго сялянскага нездаваленьня іхнім рэжымам, якое праяўляецца па ўсіх вясковых кутках ССРР. Сыстэма даносчыкаў у постаці гэтак званых „селькораў“ ці, чалавечаю моваю кажучы, сельскіх корэспондэнтаў гэтак дапякае сялянству, што яно расправляецца з гэтымі казённымі корэспондэнтамі так, як само умее. То тут то там на ўсёй тэрыторыі бальшавіцкага панаваньня сяляне б'юць проста селькораў, а часта-густа і насьмерць забіваюць.

І ня дзіўна, што сялянства гэтак моцна рэагуе на крыўды, якія выплываюць з селькораўскіх рэвэляцыяў на шпальтах партыйных бальшавіцкіх газэт. Калі селянін, які мае ўжо тры штукі рагатай жывёлы, залічваецца бальшавікамі да гэтак званага „кулацкага“ элемэнту, дык ясна, што дыхаць пад бальшавіцкім рэжымам сялянам вельмі цяжка.

Навет спакойнае характарам беларускае сялянства выходзіць за межы свае цярплівасьці. Гэтак тыдзень назад у Менску трыбунал судзіў 7-х сялян за пабоі, нанесеныя селькору Лапіцкаму.

Каб запалохаць сялян наагул і паказаць, што бальшавіцкая ўлада жорстка карае за зьнявагу сваіх агентаў, 6 абвінавачваных засуджаны агульным лікам на 18 гадоў вастрогу.

Аб працэсе гэтым прашумела ня толькі менская радавая прэса, а навет і маскоўская „Праўда“.

На судзе выясьнілася, што Лапіцкі вёў барацьбу і з прадстаўнікамі „нізовага апарату“ радавае ўлады, цераз які бальшавіцкія „вярхі“ праводзяць свае пляны ў вёсцы.

І характарыстыка гэтых вясковых—„нізовых“—уладаў, як і характарыстыка абвінавачаных за пабіцьце селькора, зробленая „Праўдою“ вельмі цікавая.

Вось як, напр. дапрашваў сялян агент крымінальнае паліцыі Лавецкі, камуністы і начальнік раённае міліцыі:

— Агент выцягнуў рэвальвэр і ўпёр мне, ведама што, ў грудзі, — расказвае адзін з няшчасных мужычкоў, — дый „кажы, — вымагае, — што Лапіцкі нас лаяў *саматажнікамі* ды падбухторваў вёску да бунту“. — Я спалохаўся, пэўна-ж, бачачы канец свайго жыцьця дый кажу: „Таварышы, даражэнькія, людцы, пішэце, што лаяў саматажнікамі“. Яны напісалі на паперцы, абмазалі мне пальцы чарнілам, я прылажыў да паперкі пальцы і тады мне сказалі: „Паскуда, ідзі вон“.

Дзеля расьсьледаваньня справы „спраціўленьня насяленьня пры спробе арыштаваць правакатара Лапіцкага“ прыехаў у вёску ўвесь раённы выканаўчы камітэт у поўным складзе. Ніхто ніякага расьсьледаваньня не рабіў. Па сьпіску, зложанаму быўшым гарадавым Аўсянікавым пачалі выклікаць розных людзей — мужыкоў і старых бабаў і хоць яны ня ведалі, якая іхняя тут віна, але віна гэта была ў тым, што яны, каб выратаваць Лапіцкага прасілі міліцыю пазабіваць усіх раней, чымся яна дабярэцца да Лапіцкага. Увечары, калі, як з вядра, ліў халодны дождж, іх павялі пад канвоем у вастрог.

Селькоры, як бачым, нямілы нікому: і *советским* нізам і вясковаму насяленьню. Няміла і ўся бальшавіцкая ўлада давела да роспачы сялянству. І ніякімі жорсткімі прысудамі, ніякімі нялюдзкімі карамі любасьці да гэткае ўлады нельга ўжо выклікаць у сялянах. Барацьба з уладай пачынаецца з таго боку, на які гэтая ўлада, так ці йначай, дасюль апіралася, з якога выцягвала той контынгэнт штыхоў, на якім старалася сядзець.

Але-ж даўно ведама, што штыхамі шмат чаго можна нарабіць, а толькі ўсядзець на іх нельга самым хітрым дэспотам.

Расправа сялянства з селькорамі можа лёгка пашырыцца і на ўвесь апарат нізоў радавае ўлады, якую часта-густа рэпрэзэнтуюць у вёсцы гэткія начальнікі сялян, як быўшы гарадавы Аўсянікаў. Зьнізу справа можа дакаціцца да самых вярхоў.

Пабоі над селькорамі — гэта толькі першыя цікавыя азнакі насьпеўшага народнага протэсту. І азнакі гэтыя, як відаць з самае бальшавіцкае прэсы, пагражаюць прыняць эпідэмічны саўсім характар сярод вясковага насяленьня бальшавіцкай дзяржавы, рэжым якое робіцца для сялян несьцярпімым.

## Палітычны агляд.

У апошні час Францыя перажывае самую вострую форму фінансавага крызысу. У апошнія часы Эўропа прывыкла да ўсялякага роду крызысаў. Перажывалі цяжкі фінансава-эканамічны крызыс Аўстрыя, Нямеччына, Польшча. Але ўжо ў гэтых дзяржавах наступіла значнае палепшаньне фінансавага палажэньня. Усюды валюта ўстабілізавалася. Навет у ССРР уведзены чырвонец, якога курс штучна падтрымоўваецца на аднэй вышыні, ў той час, як курс францускага франка бязупынна падае. Гэта тым болей здаецца дзіўным, дзеля таго, што Францыя з эканамічнага погляду знаходзіцца ў найбольш памысных варунках сярод усіх эўропэйскіх дзяржаваў. Перш-на-перш яна, як напалову сельска-гаспадарчая дзяржава, наменш падлягае агульным прычынам эканамічнага крызысу, які перажывае ўся Эўропа пасьля вайны. Падругое Францыя, выйшаўшы з мінулай вайны як пераможца, адтрымала значную долю нямецкай і аўстра-вэнгерскай контрыбуцыі. Узмацавала свой ваенны і гандлёвы флёт на рахунак нямецкага флёту, адтрымала шмат чугуначнага інвэнтара ад Нямеччыны, ваенных матар'ялаў, у працягу году эксплёатавала Рурскі басэйн, окупаваўшы яго дзеля таго, што Нямеччына адмовілася плаціць контрыбуцыю, адтрымала і дагэтуль адтрымоўвае ў натуры і грашмі значную частку нямецкай рапарацыйнай платы. І, ня гледзячы на ўсё гэта, францускі франк падае ўсё ніжэй ды ніжэй, выклікаючы паніку ня толькі ў Парыжы, але і ў Лёндане і ў Нью-Іорку, дзеля таго, што Францыя зьяўляецца галоўным даўжніком Англіі і Амэрыкі. А дык-жа ведама, што цяпер пры абніжэньні валюты нейкай вялікшай дзяржавы церпіць ня толькі гэта дзяржава, але і ўсе іншыя, дзе ёсьць запас валюты гэтай дзяржавы. Ведама, як пацярпела Амэрыка, Францыя, Англія і інш. дзяржавы з прычыны абясцэнкі царскага рубля і нямецкай маркі. Дзеля гэтага больш як год назад, калі францускі франк таксама пачаў падаць, амэрыканскі банкір, Морган, пазычыў Францыі 100 міл. даляраў для падтрыманьня курсу. І гэта яму на нейкі час удалося. Але хутка франк ізноў пачаў падаць, выклікаючы перапуд у шмат якіх дзяржавах, дзеля таго, што як заявіў францускі прэм'ер Эрыё ў палаце дэпутатаў, пытаньне аб фінансавым палажэньні Францыі мае ня толькі нацыянальнае, але й міжнароднае значэньне.

У гэтым выпадку на прыкладзе Францыі лепш за ўсё відаць шкодныя рэзультаты вайны, якая не шкадуе ані пераможанага, ані перамогшага. Расходы на сусьветную вайну дайшлі да астранамічнай велічыні. Ды самая вайна, праўду кажучы, зацягнулася дзеля таго, што кожная дзяржава хацела быць поўным пераможцам і давясьці пераможаную старану да капітуляцыі, каб пасьля зваліць на яе ўсе расходы. Мінулая вайна і была даведзена да гэткага рэзультату. Але надзеі перамогшых ня зьдзейсьніліся. І Францыя, як галоўная з перамогшых дзяржаваў, першая зрабілася ахвярай гэтых нязьдзейсненых надзеяў. Перш-на-перш, Францыя была прымушана зрабіць у часе вайны вялікую пазыку ў Амэрыцы і Англіі, якая даходзіць да 30 мільярдаў залат. франкаў. Адны толькі процанты ў год складаюць 4, 6 мільярд папяровых франкаў.

Але найбольшай сумы даходзіць унутраны доўг Францыі, зроблены ёю ў часе вайны і пасьля вайны

і даходзіць да аграмаднай сумы— 277 мільярдаў папяр. франкаў. З гэтай сумы францускі ўрад зрасходваў 129.777 м. фр. на адбудову зруйнованых вайной заходніх провінцыяў. Рэшта была зрасходвана на падмогу інвалідам і сем'ям, астаўшымся пасьля сьмерці ахвяр вайны. Ранейшы плян быў такі, каб гэтыя расходы пакрыла Нямеччына. І ўзапраўды частка нямецкіх рэпарацыйных платаў — пайшла на гэту мэту ў постаці натуры, як будаўляны матар'ял. Але гэта пакрыла толькі вельмі нязначную частку агульных расходаў на адбудову зруйнованых гарадоў, вёсак, фабрык, вінаграднікаў, садоў і г. п. Калі-б францускі ўрад ведаў наперад, што не адтрымае ад Нямеччыны ўсяго таго, чаго спадзяецца, дык быць можа быў-бы больш эканомны. Цяпер Францыя павінна плаціць процантаў за ўнутраныя даўгі 10,5 мільярд пап. фр. Калі да гэтага дадаць яшчэ 7,2 м. фр. процантаў за вонкавыя даўгі, дык адных процантаў у год выйдзе 17,7 м. фр.

Чым-жа думае Францыя пакрыць гэтыя даўгі і проценты?

Раней, як ведама, ўся контрыбуцыя Нямеччыны была аблічана на 375 мільярд. зал. мар., з якіх на долю Францыі аблічалася 42%. Але Нямеччына пад відам неплатаздольнасьці давяла гэту цыфру да 50 мільяр., якія таксама ў канцы канцоў адмовілася плаціць. Цяпер на падставе пляну Доуса Францыя павінна адтрымаць ад Нямеччыны да 1929 г. 1,3 мільярда зал. мар., г. зн. 6,2 м пап. фр. Апрача таго, даўгі розных дзяржаваў Францыі, не рахуючы ССРР, які ня хоча нічога плаціць, складаюць каля 15 мільярд. пап. фр., ад якіх проценты каля 1 мільярда ў год. Гэткім чынам, усяго Францыя адтрымоўвае на рахунак сваіх даўгоў каля 2 м. пап. фр., у той час, як сама павінна плаціць адных процантаў 17,7 м. фр.

Усе гэтыя вялізарныя расходы пакрываюцца выпускам папяровых грошай і г. зван. казначэйскіх бонаў (Bons de Tresor). У часе вайны выпуск папяровых грошай павялічыўся з 7 мільярд. фр. да 34. Пасьля вайны кожны год выпускаліся новыя грошы. Казначэйскіх бонаў выпушчана на 60 мільярд. фр. Зусім зразумела, што са ўзростам ліку папяровых грошай унутраная іхняя вартасьць падае. І дзеля таго, што ў Францыі ў апошні час падаткі павялічваюцца і не зьмяншаюцца расходы, бюд'жэт нельга зьвясьці без дэфіцыту, а, каб яго пакрыць, трэба рабіць усё новыя ды новыя пазыкі або друкаваць папяровыя грошы. Апрача таго, ў апошні час Амэрыка і Англія пачала энэргічна дамагацца ад Францыі ўрэгуляваньня пытаньня аб плаце даўгоў. Дзеля гэтага, зусім зразумела, чаму францускі франк гэтак падае.

*N.*

---

# Палітычная хроніка.

**У Польшчы.**

Міністэрствам Скарбу апрацоўваецца, дзеля ўнясеньня ў законадаўчыя органы, законопроект, які з мэтай ажыўленьня будаўлянага руху мае упаважняць цэнтральныя ўлады на выдаваньне спэцыяльных загадаў і праводжаньне зьменаў у існуючым цяпер законадаўстве.

Назначанае на 5 сакавіка паседжаньне Сэнату, мае адбыцца 3 сакавіка. Прычынаю ранейшага паседжаньня Сэнату зьяўляецца справа амэрыканскае пазыкі, а таксама правізарычны бюд'жэт на сакавік і красавік месяцы.

27 лютага ў Варшаве адбыўся абмен ратыфікацыйнымі дакумэнтамі польска-аўстрыяцкае арбітражнае конвэнцыі, падпісанае ў Варшаве 13 лістапада 1923 г.

„Słowo Polskie“ паведамляе з Луцку, што працэс проці 4-х, выданых Соймам, украінскіх паслоў адбудзецца ў Крамянцы ў пачатку сакавіка месяца.

Справа пасла Ланцуцкага (камуністы) адбудзецца хіба што ў Перамышлі ў палове сакавіка.

На сэсію Лігі Народаў у сакавіку выяжджае ў Жэнэву міністар заграгічных справаў А. Скржынскі.

У Варшаву прыехалі францускія журналістыя, прадстаўнікі часопісяў „Journal“ і „Eclair“. Яны былі на паседжаньні Сойму і пазнаёміліся з прадстаўнікамі польскае прэсы. Маюцца выехаць у Кракаў, пасьля вярнуцца ў Варшаву.

Ваенныя, цывільныя і гарадзкія дактары ў Лодзі адрымалі загад ад сваіх уладаў, каб незабаўна прыступілі да працы ў Касе Хворых. Да забастоўкі дактароў ня прылучыліся дантыстыя (дактары зубныя).

ПАТ перадае з Грацу, што з прычыны чутак аб заключэньні аканчальнага саюзу паміж **Грэцыяй** і **Югаславіяй** „Tagespost“ паведамляе з Белграду, што саюз яшчэ не закончаны. Першае спатканьне сэрбскіх і грэцкіх дэлегатаў адбудзецца 1-га сакавіка. Перагаворы пачнуцца ў **Афінах** і будуць закончаны ў Белградзе.

З **Канстантынопалю** паведамляюць, што аддзелы паўстаўшых курдаў занялі Дыярбэкір.

З **Бэрліну** паведамляюць, што нямецкая дэлегацыя выехала ў **Маскву** дзеля далейшага вядзеньня нямецка-савецкіх гандлёвых перагавораў.

Паводлуг вестак з **Масквы**, адна з ваенных школаў, якая месьціцца ў будынку першага кадэцкага корпусу, прадала на паперню ўсю бібліятэку, якая налічвае больш як 100.000 томаў. Бібліятэка існавала больш як 100 гадоў і сабрала шмат каштоўных кнігаў. Усе гэтыя кнігі праданы агулам па 90 кап. за пуд дзеля пераробкі на папяровую масу.

Ангельская газ. „Daily Telegr.“ падазравае **турэцкі** ўрад у скарыстаньні **паўстаньня курдаў** дзеля таго, каб згрупаваць значныя ваенныя масы на паўночнай граніцы Іраку і вымагае ад **ангельскага** ўраду, каб быў напагатове. З другога боку надходзяць з **Турцыі** весткі, што значную ролю ў паўстаньні курдаў згуляла бальшавіцкая пропаганда ў Канстантынопалі.

З **Бэрліну** тэлеграфуюць, што здароўе Прэзыдэнта Рэспублікі Эбэрта значна пагоршылася з прычыны запаленьня брушыны. Тэлегр. бюро Вольфа паведамляе, што палажэньне прэзыдэнта вельмі сур'ёзнае.

Паводлуг вестак з **Пэкіну**, „United Presse“ паведамляе, што прадстаўнік **радавага** ўраду Карахан і прадстаўнік **Японіі** Іошытава абмяняліся ратыфікованымі дакумэнтамі сав.-японскага трактату. Гэткім чынам, аднаўлены ў поўнай меры дыплёматычныя зносіны пажіж ССРР і Японіяй.

Паводлуг офіцыяльнага паведамленьня, ў **Чэхаславакіі** паліцыя арыштавала сэкрэтара камуністычнае партыі Вадзічку. Ен атрымаў ад нейкага землямера Драха карты і ваенныя дакумэнты. Пры дапросе Драх прызнаўся, што ўжо даўно даў Вадзічцы ваенныя докумэнты за заўсёдную месячную плату. Пасьля обыску яны абодва былі арыштованы. „Narodni Listi“ пішуць, што Драх раней дастаўляў шпіёнскі матар'ял непасрэдна пасольству С.С.Р.Р. у Вене, а калі камунікацыя з Венаю аказалася небясьпечнай, дык цераз савецкую місію ў Празе навязаў зносіны з Вадзічкаю.

---

# Патрэба паразуменьня.

Мы ўжо пісалі аб тым, што супольнасьць лёсаў беларусаў і украінцаў, асабліва ў межах Польскае Рэспублікі, прывяла да супольнасці мэтаў гэных двух народаў, г. зн. што, як адна, так і другая старана, як беларускае, так і украінскае грамадзянства, мае перад сабой аднолькавыя заданьні, якія маюць у сучасны момэнт гэтак вялізарнае значэньне, што ад вырашэньня іх позытыўна залежыць далейшая магчымасьць вясьці барацьбу за свае правы, апіраючыся на польскую дэмакратыю. Бо толькі ў тым выпадку, калі беларусам і украінцам будуць іх правы загарантованы не на паперы, але калі гэтыя правы стануць даконаным фактам, можна будзе ў імкненьнях беларускага і украінскага насяленьня зрабіць пералом у бок захаду. Заданьне, — трэба прызнаць, — цяжкае і толькі супольнымі сіламі можна яго вырашыць. „Адзін у полі не ваяка“, — кажа народная мудрасьць і палітычная мудрасьць падказвае кожнаму шукаць прыяцялёў, каб разам змагацца з цэлым легіёнам перашкод, якія стаяць на шляху іхняга нацыянальнага адраджэньня.

Адзінай украінскай арганізацыяй блізкай нам па ідэолёгіі зьяўляецца Украінская Народная Партыя, якая ўжо выказалася аб пажаданьні коор-

---

# Урадовы проект зямельнае рэформы.

Пытаньне аб рацыянальным вырашэньні зямельнае рэформы мае ў Польшчы асаблівае значэньне, дзеля таго, што сельская гаспадарка зьяўляецца галоўнаю асноваю існаваньня дзяржавы. Ня гледзячы на тое, што ў Польшчы ёсьць багатыя мінэральныя крыніцы і досіць высока разьвітая прамысловасьць, усё такі яна зьяўляецца пераважна краем сельска-гаспадарчым, таму што $^2/_3$ насяленьня або 65 проц. займаюцца толькі сельскаю гаспадаркаю. А калі да гэтага дадаць, што прамысловасьць усё такі ніжэйшая за прамысловасьць іншых дзяржаваў, як Нямеччына, Чэхаславакія, Аўстрыя, Францыя, Англія і Амэрыка, з якімі Польшча ня можа канкураваць на сусьветным рынку, дык яшчэ ясьней робіцца, якое вялікае значэньне мае падняцьце сельска-гаспадарчае прадукцыі, якая ў сваю чаргу залежыць ад правільнага рашэньня пытаньня аб зямельнай рэформе. Пытаньне гэтае ў іншых суседніх дзяржавах, паўстаўшых на тэрыторыі быўшае Расейскае імпэрыі, як Літва, Латвія і Эстонія, даўно вырашана. Толькі ў Польшчы яно стаіць на мёртвым пункце, ня гледзячы на неаднаразовыя спробы ўраду вырашыць яго ў той ці іншай форме. Часткай на гэта ўплывалі кабінэцкія крызысы. Але-ж усё такі было прынята тры проекты, якія ляглі ў аснову праводжанае дасюль зямельнае рэформы.

Рэформа гэтая апіралася дасюль на закон 11 ліпня 1919 г., прыняты большасьцю аднаго голасу ў Устаноўчым Сойме і на закон 15 ліпня 1920 г. пры ўрадзе Вітоса і Дашынскага падчас бальшавіцкага наступу на Варшаву. На аснове гэтых законаў, усе абшарніцкія двары падлягалі прымусоваму падзелу, пры чым абшарніку пакідаўся максымальны кавалак зямлі ў 60 гэктараў (108 маргоў) недалёка ад местаў, 400 гэктараў (715 маргоў) на «крэсах» і 180 гэктараў (320 маргоў) ў рэшце мясцовасьцяў. Абшарнікі павінны былі адтрымліваць за адабраную зямлю выкуп у разьмеры 35 проц. вартасьці, як зямельную рэнту. Існавала і няроўнасьць паміж абшарнікамі розных мясцовасьцяў Рэспублікі. Як толькі пасьля адбіцьця бальшавікоў зьмяніўся ўрад Вітоса—Дашынскага, дык адзін за адным пачалі прыходзіць да ўлады правыя ўрады, зямельная рэформа спынілася на мёртвым пункце. Тымчасам левыя партыі ўвесь час напіралі на ўрад, трэбуючы ўрэгуляваньня зямельнага пытаньня. І правым партыям, не хацеўшым праводзіць зямельнае рэформы паводлуг ранейшых названых законаў і разам з тым жадаўшым, як-бы там ні было захаваць у сваіх руках уладу, ўдалося схіліць на свой бок партыю Вітоса — «Пяст», якая ў той час была найбольшаю з усіх нацыянальна-польскіх партыяў. Лідэр гэтае партыі, Вітос, падпісаў у Вялікодныя дні 1923-га году ў Кракаве з лідэрамі правых партыяў паразуменьне, на аснове якога правыя партыі павінны былі згадзіцца на зямельны закон, прапанованы Вітосам за тое, што ён паможа стварыць цэнтра-правы ўрад. І рэзультатам гэтага паразуменьня правых партыяў або „Chjeny“ з партыяй «Пяст» быў новы зямельны закон, унесены ў Сойм 2-га жніўня 1923 году і апрацованы «Пястам». Паводлуг гэтага закону, не падлягалі падзелу ў працягу 10 гадоў двары ўнутры дзяржавы разьмерам да 340 гэктараў, а на «крэсах»—да 400 гэктараў і з больш высокаю культураю двары да 1.120 гэктараў. Але й гэты законапроект, ня гледзячы на вялікія выгады, якія ён даваў болей заможным земляўласьнікам, падтрымліваным пра-

